BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.,
166 — 34 Gothic Drive, Jamaica, N. Y. 11432.
Subscription $ 6.00 yearly.

„БЕЛАРУС" — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
Выпіска зь перасылкаю — 6 дал. на год.

# "... КАБ НЯ ЎМЕРЛІ"

Колькі апошніх гадоў ды асабліва сёлетні 1969 год былі асабліва панурымі й цяжкімі ў нацыянальным жыцьці беларускага народу ў паняволенай Бацькаўшчыне. Пэрыяд, што сяньня перажывае беларускі народ, з гледзішча на ягоны пагромны характар, можна супаставіць з пэрыядам сталінаўскіх пагромаў 30-ых гадоў. Тады пракацілася колькі хваляў масавага фізычнага нішчэньня народу: арыштаў, расстрэлаў, высылак, раскулачваньня, а ўсё гэта аслабіла беларускую нацыянальную патэнцыю на даўгія гады й спыніла нацыянальна-культурнае разьвіцьцё беларускага народу. Гэта былі гады крывавага фізычнага, а разам зь ім і нацыянальнага гэнасыду.

Сяньня-ж, пасьля кароткага пэрыяду дэсталінізацыі, хоць фізычнае нішчэньне народу не праводзіцца, шалее ў куды большым разьмеры і ў больш вырафінаваных формах нішчэньне нацыянальнае, нацыянальны гэнасыд у літаральным значаньні гэтага слова.

Вось адно колькі з цэлае процьмы канкрэтных прыкладаў і фактаў.

Усе вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі, за вынняткам факультэтаў беларускае мовы й літаратуры, працуюць на расейскай мове. Заснаваны з пачаткам сёлетняга навучальнага году другі, пасьля Менскага, Гомельскі Дзяржаўны Унівэрсытэт, замест стацца новым нацыянальна-культурным дасягненьнем, фактычна стаўся яшчэ аднэй цьвярдыняй русыфікацыі.

Пачаткавае й сярэдняе школьніцтва, афіцыйна й паводля назову ў большыні беларускае, у меншыні, асабліва ў гарадох, расейскае, практычна ўсё яно расейскае, бо навучаньне ў гэтых школах, за вынняткам беларускае мовы й літаратуры, як прадметаў, вядзецца парасейску. Як сьцьвердзіў канадзкі пэдагог украінскага паходжаньня Джон Коляскі, якому ўдалося пабыць два гады ў СССР, у сваёй выдадзенай у 1968 г. кнізе "Education in Soviet Ukraine", навет у сталіцы „незалежнай" БССР, у Менску няма ніводнае школы зь беларускаю моваю навучаньня.

З усяе кніжнае прадукцыі БССР выходзіць апошнімі гадамі ў сярэднім менш за 20% кніжак на беларускай мове, тымчасам як на мове расейскай — звыш 80%.

Пачынаючы ад 1957 г., беларуская творчая інтэлігенцыя сыстэматычна выступае супраць гэткай ненармальнай зьявы, што з 11-ёх прафэсійных тэатраў Беларусі ўсяго тры зь іх працуюць на беларускай мове. Не зважаючы на гэта, тэатраў беларускіх не пабольшала.

На працягу апошняга дзесяцігодзьдзя ня спыняліся патрабаваньні беларускага грамадзтва, каб фільмы студыі „Беларусьфільм" мелі беларускі нацыянальны характар і ствараліся беларускімі мастацкімі сіламі, што ведаюць мову й нацыянальныя асаблівасьці Беларусі. Калі-ж патрабаваньні гэтыя асабліва войстра прагучэлі на Другім зьезьдзе беларускіх кінаматаграфістых у 1967 годзе, дык старшыня Камітэту кінаматаграфіі Савету міністраў БССР Б. Паўлёнак афіцыйна заявіў, што гэтыя патрабаваньні „пахнуць нацыяналізмам".

І гэтак у кажнай галіне беларускага культурнага й грамадзкага жыцьця.

У апошнім дзесяцігодзьдзі Камуністычная партыя пашырае тэзу, сэнс якой той, **што русыфікацыя ня ёсьць русыфікацыяй,** а быццам зусім натуральным і карысным дабравольным працэсам удасканаленьня, пашырэньня й паглыбленьня нацыянальнае існасьці нерасейскіх народаў СССР. Практычна працэс гэты ўжыцьцяўляецца ў вызнаньні расейскае мовы, як **другой роднай мовы** нерасейскіх народаў, у тым ліку й беларускага народу. Але прынцып двумоўя ўжыцьцяўляецца адно ў дачыненьні да нерасейскіх народаў, а не ў дачыненьні да народу расейскага, якому дазволена мець адну родную мову.

Шалёны русыфікацыйны наступ сустракае, аднак, моцны супраціў і супрацьдзеяньне з боку нацыянальнае інтэлігенцыі. Ідучы за запаветам бацькі беларускага адраджэньня Францішка Багушэвіча — **„Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!"** — на абарону роднае мовы выступілі сяньня найбольш дружна беларускія паэты й пісьменьнікі, як і наагул дзеячы беларускае культуры. Сярод беларускіх паэтаў, асабліва маладога й наймалодшага пакаленьня няма бадай што ніводнага, які-б ня выступаў з праграмовымі вершамі ў вабароне роднае мовы, зь вершамі, у якіх бязьмежная любасьць, культ і піетызм да роднае беларускае мовы ня быў-бы найвышэйшым нацыянальным наказам. Затое ў сотняў сучасных беларускіх паэтаў ня знойдзецца літаральна ніводнага вершыка на ўслаўленьне гэнае „другое роднае мовы" — мовы расейскае.

Ці-ж не найбольшае гэта сьцьверджаньне, што, як казаў калісьці Максім Багдановіч, **„жывая яшчэ душа ў народзе гэтым"**? Гэта й найбольшая зарука таго, што, як казаў Янка Купала, **„Ой, ня вырваць з сэрца цябе, наша слова! Ой, ня ўзяць ніякім сховам ды аковам!"**

Змаганьне за гэтую „жывую душу" народу, за „роднае слова", наагул за сваё нацыянальнае існаваньне, ведзенае на Бацькаўшчыне, не павінна пакінуць нас, Беларураў у Вольным Сьвеце, адно пасыўнымі сьведкамі сэтага змаганьня. Мы павінны стацца актыўнымі ўдзельнікамі яго! Мы павінны ня зь меншым піетызмам шанаваць нашую родную мову, культываваць у нашых душах нацыянальныя беларускія традыцыі, прышчапляць да іх любасьць і піетызм у нашага маладога пакаленьня.

Каб практычна памагчы нашаму народу на Бацькаўшчыне, мы павінны голасна пратэставаць перад сумленьнем Вольнага Сьвету супраць злачыннага нацыянальнага камуністычна-расейскага гэнасыду.

# МІЖНАРОДНАЯ ВЫСТАЎКА У ЧЫКАГА




Беларускае культурнае стоішча на Выстаўцы

На працягу дзесяцёх год Беларусы ў Чыкага прыймалі ўдзел у шырокаведамай Міжнароднай Выстаўцы, ладжанай кажнага году. Як усім тут добра ведама, пачатак быў цяжкі й няўдзячны, як быццам гэныя „сызыфовыя работы", і не адзін пэсымістычна казаў, што нічога ня можа быць добрага зь беларускага „Назарэту".

Каб зарганізаваць свой стэнд, трэба мець адпаведныя экспанаты, — казалі адны, — а скуль іх узяць, а калі й знойдуцца якія старыя дзяружкі ці вышыванкі, прывезеныя яшчэ зь Беларусі, дык яны ўжо пастарэлі, страцілі сьвежасьць, абцёрліся, што й грэшна паказваць, бо людзі будуць сьмяяцца. А каб зарганізаваць добрае стоішча, — казалі іншыя, — патрэбен прафэсіяльны чалавек, мастак, што ведае сымэтрыю, падбор колераў, належнае асьвятленьне й г. д. Але не зважаючы на гэткі пэсымістычны падыход, знайшліся адзінкі, што сьмела сказалі: — Возьмем дый папрабуем, а штосьці выйдзе, мы ўжо ня гэткія зломкі, каб навет свайго стоішча не зарганізаваць.

Часта чулася, што мы не патрапім зрабіць і гэтага ды прапанавалася: — Няхай вун гэны з краю нашае чарады робіць. — І ўзапраўды, да працы прыкладаліся часта тыя, што быццам і не належылі да г. зв. „эліты". А моладзь, нашая „залатая моладзь", што студыявала на вышэйшых школах або й скончыла ўжо свае ўнівэрсытэцкія студыі, за вынняткам узноў-жа адзінак, нат і не падумала, каб чымсьці дапамагчы. Жаль бярэ, што пасыўнасьць і абыякавасьць плыве ў жылах гэтых біялягічна маладых людзей, і мімаволі ўсплывае на памяць вобраз тэй дынамічнай, энтузіястычнай і творчай моладзі калісьці на Беларусі, што заўсёды й на ўсё мела час, была поўная нацыянальна-грамадзкіх ідэяў.

— Вось, — кажуць адны, — гэта было на бацькаўшчыне, а тут мы адарваныя ад карэньняў свайго народу й краю і ня маем тых жыцьцядайных сокаў, чым душа магла-б карміцца й тварыць новыя задумы. Але гляньма на іншыя народы, моладзь якіх, навет народжаная ўжо тут, у Амэрыцы, гутарыць сваёй роднай мовай ды актыўна працуе ў сваіх нацыянальных арганізацыях. А мы?... У нас ўсё йнакш..




Удзельнікі Беларускага Танцавальнага Гуртка зь ягонай кіраўнічкай Верай Рамук пры емінным стоішчы

Але вернемся да нашае выстаўкі, што адбылася 1-га й 2-га лістапада сёлета на Нэйві Пір. Трэба адцеміць, што сёлетняя выстаўка прыпала на час, калі вуліцы гораду Чыкага адбіваліся яшчэ гучным ды страшным рэхам тых падзеяў, выкліканых моладзяй, што ўзыйшла на шлях камплектнага разбурэньня дасюлешняга парадку, зьнішчэньня традыцыяў, аднак ня мела ніякай пазытыўнай праграмы, каб заступіць існуючы лад.

На працягу 10-ёх гадоў былі спробы ўцягнуць усе існуючыя беларускія арганізацыі ў Чыкага, каб супольнымі сіламі ладзіць выстаўку. Нажаль, не ўдалося гэтага дасягнуць за вынняткам некаторых адзінак, што прыймалі ўдзел у арганізаваньні выстаўкі, падчыркваючы, аднак, што гэта яны робяць із свае прыватнае ініцыятывы. Тое-ж самае можна сказаць і пра Танцавальны Гурток, у які не ўдалося ўцягнуць моладзі зь іншых арганізацыяў, а толькі некаторыя адзінкі далучыліся да супольнае дзейнасьці ды прыймалі ўдзел у танцавальных выступленьнях дзеля вонкавае рэпрэзэнтацыі. Але дзякуючы прыяцелям нашай нацыянальнай групы, удалося сабраць патрэбную колькасьць маладых дзяўчатаў і іншанацыянальнага паходжаньня, якія й цяпер зьяўляюцца моцнай падпорай нашага танцавальнага гуртка.

Неспадзеўкай сёлетняй выстаўкі было вогнішча, навакол якога былі пастаўленыя манэкіны ў нацыянальных вопратках, што прадстаўлялі народную купальскую ўрачыстасьць. Вартая пахвалы спрытная задума дзяўчатаў з танцавальнае групы, якія ў нярухомай позе наследвалі манэкінаў, што гледачы доўга не маглі пазнаць, дзе манэкіны, а дзе жывыя постаці, аж пакуль яны не ўзварушыліся, што выклікала зьдзіўленьне й прызнаньне з боку наведвальнікаў.

Як і мінулымі гадамі, заслужаным посьпехам цешылася нашая пральля сп-ня Тарэса Тарасэвіч, што мела нагоду паясьніць зьведваючаму выстаўку мэру гораду Чыкага Рычарду Дэйлі спосаб гадаваньня лёну й увесь працэс вырабу валакна і ткацкую тэхніку беларускага палатна й дзяружак. Мэр Дэйлі быў проста захоплены беларускім народным ткацтвам. Ейнае дакладнае інфармаваньне й паказ прадзеньня нітак прыцягвалі ўвагу наведвальнікаў, якія засыпалі яе рознымі пытаньнямі ня толькі аб вырабе лёну, але й наагул аб нашым краі.

З новых экспанатаў былі паказаныя дзяружкі, ручнікі, дарожкі й хвартухі, прывезеныя зь Беларусі. На асаблівую ўвагу заслугоўвалі ручнікі з багатымі дэсэнямі, тканыя чырвонымі й чорнымі ніткамі на палатне сьветла пясочнага колеру.

Сёлета ўдалося дастаць драўляныя мастацкія вырабы, прыгатаваныя старым эмігрантам Беларусам. Гэта былі столікі з прыгожымі геамэтрычнымі ўзорамі, ювэлірныя скрынкі шасьцікутнага фармату з рознымі ўзорамі, містэрна выкананыя карнізы ды падстаўкі для кветак. А што яны падабаліся, можна судзіць зь іхнае продажы й замаўленьняў на іх.

Зь іншых экспанатаў лялькі ды падушкі, вышыванкі ды паясы зыркімі калёрамі й прываблівымі ўзорамі захаплялі асабліва жаноцкую публіку, і не адна з наведвальніцаў хацела адразу купіць або замовіць іх.

І ў сёлетнім годзе беларускі гастранамічны аддзел, ладжаны Беларускім Танцавальным Гуртком, цешыўся вялікім посьпехам, так што ўсе прыгатаваныя емінныя спэцыяльнасьці былі распрададзеныя перад заканчэньнем выстаўкі. У прыгатаваньні нашае кухні вызначыліся асабліва маткі дачок з танцавальнага гуртка ды ягоныя прыяцелі. Тут трэба адзначыць няўтомнасьць, вытрываласьць і цярплівасьць у часе продажы еміны сп-няў Аўдакіі Жызьнеўскай, Маргарэты Багдан, Нэнсі Бэйкар і Марты Кучуры. Даход з продажы емінных спэцыялітэтаў быў прызначаны на прыдбаньне патрэбных касьцюмаў для танцавальнага гуртка.

Пры емінным стоішчы былі таксама выстаўленыя на продаж беларускія кружэлкі й кніжкі.

У мастацкай праграме выстаўкі выступаў згаданы наш Беларускі Танцавальны Гурток пад кіраўніцтвам сп-ні Веры Рамук. У першым дні праграмы былі выкананыя народныя танцы „Крыжачок", „Кадрыля" й „Лявоніха", а наступнага дня — „Мікіта", „Кадрыля" й „Лявоніха". Некаторыя дзяўчаты высту-

# УГОДКІ СЛУЦКАГА ЧЫНУ Ў МЭЛЬБУРНЕ

Ізь сёлетняга сьвяткаваньня 49-ых угодкаў Слуцкага Паўстаньня ў Мэльбурне, як ягоныя арганізатары — Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі, гэтак і ўдзельнікі ўрачыстага сходу засталіся задаволеныя. Зложылася на гэта й незвычайная пагода апошняга дня вясны, што, як быццам саромячыся за дасюлешняе дрэннае надвор'е, хоць на разьвітаньне хацела пакінуць па сабе мілейшы ўспамін, і большая, як звычайна, колькасьць прысутных, і даволі цікавая праграма ды добрае ейнае выкананьне ў параўнальна кароткім часе, дзякуючы чаму, замест нуды й чаканьня, было агульнае зацікаўленьне й задаваленьне.

Сход адчыніў і вёў яго чародны старшыня Беларускага Цэнтральнага Камітэту сп. М. С. Вітаючы прысутных, ён успомніў нядаўна памерлага сябру Камітэту ад самага ягонага пачатку съв. пам. Сяргея Розмысла, памяць якога была ўшанаваная хвілінай цішыні.

Пасьля прапяяньня аўстралійскага гімну мяшаным хорам пад кіраўніцтвам сп. П. Мікуліча, сп. М. Нікан прачытаў рэфэрат на тэму дня. Ён шырэй затрымаўся над нашай сяньняшняй сытуацыяй ды нашых грамадзкіх абавязках, падчыркваючы, што нельга абмяжоўвацца хвілінным патрыятычным уздымам на нацыянальных угодках ды іншых беларускіх урачыстасьцях толькі, а неабходна ўвесьці й закараніць яго ў нашым штодзённым жыцьці.

Пасьля рэфэрату сп. А. Кадняк прачытаў верш Янкі Купалы „Паўстань з народу нашага, Прарок", а Галіна Гірыс і Юрка Нікан прачыталі гэты-ж верш у ангельскім перакладзе Л. Тэрпак.

Патрыятычнай песьняй - гімнам „Сьпі пад курганам гэрояў" у выкананьні мяшанага хору ды хвілінаю цішыні ў знак ушанаваньня памяці ўсіх змагароў за волю Беларусі закончылася афіцыйная частка ўрачыстасьці.

Мастацкая частка пачалася эміграцкай песьняй „Дні надходзяць, дні праходзяць" у выкананьні хору. Тады сп. А. Кадняк прачытаў верш Алеся Салаўя „Над Слуцкам днее", а Аршуля Нікан прачытала гэты верш паангельску ў перакладзе Веры Рыч. Сп-ня Вера Шайпак прачытала верш Ларысы Гэніюш „Зубры", а сп-ня Зіна Кадняк верш Аляксея Пысіна „Забыта многае". Пасьля гэтага жаноцкі хор выканаў песьню „Ці сьвет ці сьвітае".

У далейшым ходзе праграмы Юрка Нікан прачытаў верш Ларысы Гэніюш „Сэрца, зямля мая", а сп-ры Кулага й М. С. прачыталі ўрывак з паэмы Максіма Танка „Кастусь Каліноўскі"; словы старога паўстанца чытаў сп. Кулага, Каліноўскага — М. С.

Падзякаю хору за добрае выкананьне песьняў, А. Кадняку за падрыхтоўку дэклямацыяў, а прысутным за ўдзел, старшыня зачыніў сход. Беларускім нацыянальным гімнам „Мы выйдзем шчыльнымі радамі", прапяяным хорам і ўсімі прысутнымі, закончылася ўрачыстасьць.

Пасьля заканчэньня, старшыня ўрачыстасьці, выкарыстоўваючы нагоду прысутнасьці большае колькасьці Беларусаў, паінфармаваў аб праекце набыцьця собскага беларускага грамадзкага дому ў Мэльбурне ды заахвочваў да актыўнага падтрыманьня гэтае ініцыятывы. Была выказаная прысутнымі патрэба задзіночаньня высілку ўласьніка грамадзкага пляцу ў Ст. Албанс з высілкам Камітэту дзеля набыцьця дому. Пры гэтай нагодзе хіба выкажу агульную апінію Беларусаў Мэльбурну, калі зложу ад іхнага імя асаблівую падзяку сп. М. С. за дасюлешнюю магчымасьць карыстаньня зь ягонага прыватнага дому дзеля адбываньня розных сходак і сьпевак хору, чым у значнай меры дапамагаў ён хоць і сьціпламу беларускаму грамадзкаму жыцьцю ў Мэльбурне.

На заканчэньне ня ліпшім будзе адзначыць, што 1. урачыстасьць угодкаў Слуцкага паўстаньня адбылася 30 лістапада ў ведамай Беларусам залі на Футскрэй, якая, як і заўсёды, была арганізатарамі ўдэкараваная сьцягамі й кветкамі; 2. харыстыя й дэкляматары выступалі ў нацыянальных вопратках, што асабліва цешыла вока прысутных; 3. сп-ні Кукель, якая, як і заўсёды, прышпіляла ўдзельнікам сходу пры ўваходзе ў залю нацыянальныя сьцяжкі, належыцца шчырая падзяка; 4. прэсавы прадстаўнік, як і заўсёды на беларускіх урачыстасьцях, наладзіў быў стоішча зь беларускімі газэтамі, кніжкамі й кружэлкамі.

М. Н.

# ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У БРАДФАРДЗЕ



У той час, калі ў ЗША Тыдзень Паняволеных Народаў абвешчаны дзесяць год таму й урачыста адзначаецца ў ліпені кажнага году, у Ангельшчыне яго запачаткавала адно сёлета Брытыйская Ліга Эўрапейскае Свабоды ў супрацоўніцтве з Камітэтамі Паняволеных Народаў і ўрачыста яго адзначыла 9-16 лістапада.

Камітэт Паняволеных Народаў у Брадфардзе найстарэйшы спаміж гэткіх камітэтаў у Ангельшчыне. У сувязі з гэтым ад ягонае практычнае дзейнасьці было ўзята шмат прыкладаў у правядзеньні Тыдня. Перш - наперш было праведзена шмат паседжаньняў, на якіх абмяркоўвалася праграма Тыдня. На паседжаньнях гэтых быў прысутны старшыня Брытыйскае Лігі Эўрапейскае Свабоды Джон Грэгам.

На апошнім з гэтых паседжаньняў у Эстонскім Клюбе 9 лістапада, была падпісаная пэтыцыя да мэра гораду Брадфарду, якую прадстаўнікі Камітэту Паняволеных Народаў у складзе віцэ-старшыні Я. Калбасы (Белруса), сакратара М. Харука (Украінца), сяброў В. Ігнатыса) (Лятувіса), А. Оттана (Эстонца) ды чатырох маладых дзяўчат, адзетых у нацыянальных вопратках, уручылі мэру гораду 10 лістапада ў часе свае візыты ў гарадзкой залі Брадфарду.

Мэр Брадфарду лёрд Алдэрман Эды Ньюбэй прыняў дэлегацыю вельмі прыхільна. Спачатку ён папрасіў сяброў дэлегацыі ўпісацца ў кнігу наведзальнікаў, зрабіў зь імі супольны фотаздымак (гл. уверсе) ды ў прысутнасьці карэспандэнтаў мясцовае прэсы афіцыйна абвесьціў Тыдзень Паняволеных Народаў у Брадфардзе. У сваёй прамове ён запэўніў пра сваё поўнае маральнае падтрыманьне ўсіх нацыянальнасьцяў з паняволеных краёў, што пражываюць у Брадфардзе.

У перададзенай яму пэтыцыі між іншых пытаньняў была просьба пра дазвол на разьвешаньне нацыянальных сьцягоў на гарадзкой ратушы на працягу ўсяго Тыдня Паняволеных народаў. Сакратар Камітэту Паняволеных Народаў атрымаў адказ, што ў наступным ужо годзе ў часе ўшанаваньня Тыдня Паняволеных Народаў нацыянальныя сьцягі паняволеных народаў у разьмеры 4 х 2 ярды, як вымагаецца правіламі Сіты Гол, будуць упяршыню вывешаныя ў Брадфардзе.

На працягу ўсяго Тыдня было раздана й разаслана тысячы адмысловых улётак, у якіх інфармавалася ангельскае жыхарства пра паняволеныя камунізмам эўрапейскія й азіяцкія народы, а ў цэрквах і касьцёлах былі праведзеныя малітвы й сказаныя казані пра камуністычны зьдзек у паняволеных краёх.

У сыботу 15 лістапада ў Украінскай залі адбыўся вялікі мітынг і канцэрт, прысьвечаны Тыдню Паняволеных Народаў. На мітынгу была вялікая колькасьць дзеячоў палітычных партыяў Ангельшчыны й брадфардзкага самаўраду. Мітынг адчыніў віцэ-старшыня Камітэту Паняволеных Народаў Янка Калбаса, а галоўную прамову сказаў старшыня Брытыйскае Лігі Эўрапейскае Свабоды Джон Грэгам. Канцэрт прайшоў вельмі ўдала, пра які, як і сам мітынг, шырака пісала мясцовая прэса.

Апрача гэтага, з нагоды Тыдня Паняволеных Народаў Аддзел Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі ў Брадфардзе выслаў адмысловыя мэмарыялы ў беларускім пытаньні Прэм'еру Вялікабрытаніі Г. Вільсану й Мэру Брадфарду Э. Ньюбэй. У вадказах на гэтыя мэмарыялы была выказаная гатоўнасьць маральнага падтрыманьня нашае нацыянальнае дзейнасьці ў Вялікабрытаніі й гарачыя пажаданьні для ўсіх Беларусаў для зьдзейсьненьня іхных нацыянальна-вызвольных ідэялаў.

**Янка Крушына**

ліка, якому наш правадыр ня даў і пасьнедаць. Бедны а. Канстантын мусіў дагрызаць булку ўжо ў самаходзе. Імчым па "Appia Nuova" ў кірунку Альбано. Раптам ... бзык, чорны „жарэбчык" а. Пётры трошкі падскочыў і ані руш далей ...

— А мае-ж вы міленькія, што-ж рабіць? Выскач а. Канстантын ды падапхні ад заду ... — устрывожыўся а. Пётра.

Мы ў страху, як завязьнем на гэтай рухлівай дарозе, то бывай здарова нядзелька!

А. Канстантын спакойна высядае і толькі пасьпеў дакрануцца пальчыкам да „хваста" нашага „коніка". як той нечакана рвануў уперад, а за ім у падскоках а. Канстантын.

Далей усё ішло паітальлянску. А. Пётра, не зважаючы на ніякія дарожныя знакі (гэтак езьдзяць тут і патомкі Рымлянаў), усё гнаў „аванты" (уперад). Дзякуй Богу, прыбылі цэлымі ў васяродак місіянэрак „Найсьвяцейшага Сэрца Езуса" ў Арыччыа.

Акружаны высокімі мурамі парк із ставочкамі, дзе плаваюць залатыя рыбкі, алейкамі, масткамі, стагадовымі дрэвамі. Пасярод дрэваў і красак вялікі будынак місіі, з бліскучымі мармуровымі падлогамі ў калідорах.

Новазбудаваная капліца ўражае сваім мадэрным памастацку выканаым з мазаікі абразом укрыжаванага Хрыста на ўсю сьцяну за галоўным аўтаром.

Кіраўніца місіі прыняла нас вельмі міла, запрасіла на абед ды прызначыла сястру-Амэрыканку паказаць усе ўладаньні. Шпацыруючы па парку ў цікавай і прыемнай гутарцы час праляцеў незаўважна.

Пасьля абеду паехалі ў Кастэль Гандольфо, маляўнічае мястэчка на высокім узгорку, а ўнізе возера. Гэта былыя ўладаньні магутнага ў сярэднявеччы роду Гандольфі. Тут цяпер летняя рэзыдэнцыя Рымскіх папаў. Парк і палац пабудаваны папам Урбаном VIII (1624-29). Насупраць палацу, пасярэдзіне пляцу, фантан Бэрніні.

Налюбаваўшыся прыгожым відам возера і наваколья, яшчэ раз заехалі ў місію. Там а 5-ай вечара пачалася ў парку маляўнічая працэсія ў чэсьць сьвята „Божага цела" (наш Дзевятнік). Прыгадаліся калішнія нашыя вялікія працэсіі ад Катэдры аж да Залатой Горкі на вуліцах Менску ... Цяпер ніхто там і марыць пра гэта ня можа ... Няма больш ні Катэдры, ні Залатагорскага касьцёлу ...

Варочаліся ў Рым маланкава. А. Пётра сьпяшыў, каб не трапіць у дарожны затор, і рабіў сваё „аванты", як віхор. Усе прыціхлі, навет мая спадарожніца адлажыла свае спасьцярогі на пасьля ды моўчкі аберуч трымалася за бочную пяцельку ў самаходзе. Ачунялі ўсе ў рэстаране "Scoglio di Frisio", дзе нам падалі іхны адмысловы смакалык дня — „Каммэлёні а ля Фрызіо", Бог ведае з чаго зроблены, але смаку надзвычайнага.

Дзень прайшоў вельмі міла й цікава.

(Далей будзе)

**А. Сьвіслацкі**

# ВЫСТАЎКА АБРАЗОЎ ГАЛІНЫ РУСАК

Задзіночаньне Беларускіх Жанчынаў Канады запрасіла сп-ню Галіну Русак, сяброўку жаноцкай сэкцыі Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі, наладзіць выстаўку яе абразоў ды даць даклад з малярскага мастацтва. Выстаўка й даклад „Мастак і асяродзьдзе" адбыліся ў нядзелю 9-га лістапада ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронта.

Імпрэза мела іншы характар, як тыя, што звычайна адбываюцца ў БР-ГЦ. Выстаўка была атракцыяй для ўсіх. Абразы, за выняткам некалькіх прадмета-рэпрэзэнтуючых і аднаго чыста абстрактнага, мелі характар „мадэрнага" мастацтва. Хто хацеў і намагаўся даведацца, што прадстаўляе абраз, мог лёгка дагадацца. Але было відавочным, што мэтай мастака ня было маляваць прадметы, пэйзаж, ці фрагмэнт здарэньня так, як гэта мы пабачылі-б на колерным здымку. Наадварот, колеры й формы, іх разьмяшчэньне й упарадкаваньне было зусім давольным. „Дубы" ,як іх называлі, бывалі або цагляста-чырвонымі, або цёмна-сінімі. Прадстаўленыя прадметы быццам намагаліся памагаць праз асацыяцыю падкрэсьліць настрой і ўражаньне выклíканае кампазыцыяй колераў, іх пераходам з аднаго тону ў другі, або войстра абмежаваным пераходам з аднае формы ў другую.

Быў адзін, напрыклад, абраз, які сваім настроем прыцягваў агульную ўвагу. Скампанаваны ён быў з шэра-бура-чорных колераў, што былі разьмешчаныя ў вадпаведных формах. У верхняй левай яго частцы была круглая белая пляма, якая гаварыла: гэта месяц, а абраз прадстаўляе таемную ноч. Разьвязка лёгкая, можа за лёгкая, бо на ёй і канчаецца зацікаўленьне абразом. Далейшая канцэнтрацыя над ім не паглыбляе ані ўражаньня, ані прыцягаваньня.

Ізноў-жа дзеля прыкладу, быў і іншы абраз у сінім агульным тоне з уплеценымі ў кампазыцыю белымі й цёмнымі элемэнтамі. Што ён сабой прадстаўляў, ня так важна, але гледзячы на яго рабілася на душы добра й спакойна. Так, як часам слухаеш хор сьпявае, бяз крыку й галасу, навет і бяз слоў, але й бяз дысанансаў. Ды кажны ўспрымае й рэагуе па рознаму. У гледачоў, яшчэ перад дакладам, вычувалася ажыўленьне, вымена думак, што каму падабаецца й чаму. „Цецярук" і „Бярозкі" відавочна заваявалі сабе папулярнасьць.

Даклад адбыўся пасьля Багаслужбы. Імпрэзу адчыніла й прадставіла аўтарку выстаўкі й прэлегэнтку ды яе мужа старшыня ЗБЖК, д-р Раіса Жук-Грышкевіч. Маг-р Галіна Русак студыявала ў Марбургзе, Лювэне й закончыла студыі ў ЗША, атрымаўшы ступень з французкае літаратуры. Апрача таго, яна закончыла із ступеняй магістра бібліятэкарскія навукі. Выклады з малярскага мастацтва слухала на ўнівэрсытэце й бярэ прыватныя лекцыі ў ведамага мастака.

Даклад прадстаўляў агульна гісторыю малярства ад дагістарычных часоў да сяньня. Характарызаваў паасобныя пэрыяды, паказваў, як разьвіцьцё малярства было й ёсьць зьвязанае зь гісторыяй і ідэалёгіяй часу, як мастак — твор часу — у сваім мастацтве адбівае й уплывае на працэсы, якія адбываюцца ў даным часе й даным асяродзьдзі.

Пасьля дакладу завязалася жывая дыскусія. Выказвалі свае пагляды асабліва на сучаснае мастацтва. Выліваліся жалі й абурэньні на некаторых сяньняшніх мастакоў, якія сваімі абразамі быццам насьміхаюцца й ашукваюць гледача. У „поп арт" бачылася дэгэнэрацыю мастацтва. Падымалася пытаньне, ці мастацтва павінна быць на службе пэўнай ідэі, ці мае толькі быць выражэньнем, часта хворай, псыхікі мастака.

Каб магчы адказаць на парушаныя тут пытаньні, трэба сьпярша адказаць на пытаньне, што такое малярскае мастацтва, разабрацца ў яго сутнасьці, яго функцыі й заданьні. Гэтыя пытаньні турбуюць ня толькі нас, але й філязофію, але яны хоць і не разьвязаныя, не перашкаджаюць нам цешыцца тым малярствам, тымі абразамі, якія нам падабаюцца — гаварыла ў заключным слове кіраўнічка імпрэзы.

Каб выразіць удзячнасьць за выстаўку й даклад, старшыня ЗБЖК уручыла прэлегэнтцы ад арганізацыі кнігу аб французкім „Імпрэсыянізьме" — мастацкае плыні з 19-га стагодзьдзя — аб якой гаварылася ў дакладзе й нямала ў часе дыскусіі.

Нарэшце гаварыла мастачка й яе муж. Спадарства Русакі, дзякуючы за гасьціннасьць, выразіліся, што хоць далёкае падарожжа й перавозка абразоў былі клапатлівымі й цяжкімі, ды ўсё-ж вартымі заходу.

**Р. Ж.Г.**

# „ЖУРНАЛ БЕЛАРУСАВЕДЫ" № 3

У Лёндане Англа-Беларускае Таварыства йшчэ ў 1965 годзе пачало выдаваць навуковы часапіс „The Journal of Byelorussian Studies" („Журнал беларусаведы") — адзінае цяпер на Захадзе (а фактычна, у цэлым сьвеце) англамоўнае выданьне, прысьвечанае пытаньням беларускае мінуўшчыны й сучаснасьці. Выдаецца „Журнал беларусаведы" невялікаю раўнуючы групаю людзей, чым і тлумачыцца тое, што часапіс друкуецца тымчасам як гадавік дый выходзіць з пэўным спазьненьнем. Нядаўна падпішчыкам і бібліятэкам была разасланая трэйцяя кніга „Журналу беларусаведы", датаваная 1967 годам. Спозьненасьць выданьня ня зьніжае аднак ані ягонае навуковае вартасьці, ані актуальнасьці закранутых у ім праблемаў. У гэтым пераконвае чытача ўвесь зьмест часапісу.

Артыкулы „Журналу беларусаведы" прысьвечаныя пераважна мінуўшчыне беларускага народу. галоўна ягонаму культурнаму, часткава палітычнаму аспэктам — якраз тым, якімі савецкая беларусаведная навука або не займаецца наагул, або калі й займаецца, дык насьвятляе іх у выкрыўленым сьвятле.

Трэйцяя кніга „Журналу" адчыняецца артыкулам Г. Піхуры пра ілюстрацыйнае мастацтва Францішка Скарыны ў ягоных выданьнях беларускага перакладу Біблії. У вартыкуле дадзены ня толькі аналіз мастацкага стылю выданьняў нашага першадрукара, але праз сьцьверджаньне сувязі паміж Скарынавымі ілюстрацыямі ды паўдзённа-нямецкімі мастацкімі школамі выказваецца новая гіпатэза што да біяграфіі доктара Скарыны, пра ягоны праўдападобны пабыт у нямецкіх гарадах Нюрэнбэргу ці Аўгзбургу, тагачасных цэнтрах эўрапейскага мастацтва, ды пра ягоныя кантакты з выдатнымі нямецкімі майстрамі. Дасюль пісалася адно пра ўплывы італьлянскае й чэскае мастацкіх школаў на Скарынавы ілюстрацыі.

Г. Піхура прасочвае таксама й беларускую мастацкую традыцыю ў Скарыны, асабліва выразную ў ягоных багатых ініцыялах і заставіцах. Скарына, кажа аўтар, працаваў у рамках добра ўмацаванае традыцыі беларускага царкоўнага мастацтва. „Месца Скарыны ў эўрапейскім мастацтве — канчае Г. Піхура свой артыкул. — яшчэ чакае свайго вызначэньня".

У трэйцяй новай кнізе англамоўнага „Журналу беларусаведы" ня менш цікавыя й артыкулы іншых аўтараў. Гэтак артыкул Р. Фрэнча прысьвечаны гістарычнай геаграфіі лясоў Беларусі ў 16-м стагодзьдзі. З артыкулу даведваемся, што на Беларусі гэнымі далёкімі часамі лясной гаспадаркі й законам, што ахоўвалі лясы, надавалася шмат увагі, у сувязі зь вялікаю роляю, якую адыгравалі лясы ў экономіцы краю. Актуальнасьць артыкулу, трэба сказаць, падвышаецца тым, што якраз цяпер у беларускім савецкім друку пішацца шмат пра нішчэньне лясоў ды праблемы, зьвязаныя зь іхным захаваньнем.

Шмат інфармацыі чытачу трэйцяе кнігі „Журналу беларусаведы" дае зьместоўны артыкул Аляксандра Надсана пра газэту „Наша Ніва". Артыкулы ў беларускім савецкім друку пра „Нашу Ніву", як правіла, абмежваюцца да нейкага аднаго аспэкту, менш-больш сучаснага з г. зв. партыйнасьцяй гістарычнае навукі. Надсанаў артыкул насьвятляе ролю й значаньне „Нашае Нівы" на шырэйшым фоне беларускага нацыянальнага жыцьця канца 19-га й пачатку 20-га стагодзьдзяў ды дае гэтым куды дакладнейшае ўяўленьне пра эпоху й значаньне ў ёй газэты „Наша Ніва", ейных выдаўцоў і супрацоўнікаў.

Каштоўны артыкул у трэйцяй кнізе „Журналу беларусаведы" Арнольда МакМіліна пра акадэміка Яўхіма Карскага, ягоную навуковую дзейнасьць ды асабліва ягоную манумэнтальную шматтомную працу „Беларусы". Цікавы таксама, хоць і невялікі памерам, артыкул аўтара выдатнае кнігі "Guide to Slavonic Languages". („Праваднік да славянскіх моваў") прафэсара дэ Брэя „Граматычныя зьмены ў сучаснай беларускай літаратурнай мове". У вартыкуле аўтар адзначае тэндэнцыю ў савецкай моўнай палітыцы да русыфікацыі граматычных формаў беларускае мовы.

Спасярод важнейшых матар'ялаў трэйцяе кнігі „Журналу беларусаведы" заслугоўвае на асаблівую ўвагу таксама працяг з папярэдняга нумару артыкулу Станіслава Савіцкага „Гістарычны агляд крыніцаў беларускага права". Артыкул прысьвечаны галоўна гісторыі й аналізу трох выданьняў кодэксу беларускага права, г. зв. „Літоўскага Статуту" 16-га стагодзьдзя, а таксама „Літоўскай Мэтрыцы", што была зборам судовых справаў з прытарнаваньнем да іх пісанага й звычаёвага беларускага права. Як „Літоўскі „Статут", гэтак і „Літоўская Мэтрыка", паказвае аўтар, побач зь перажыткамі архаічных паняцьцяў ды традыцыяў з рэшткамі навет асабістага нявольніцтва, мелі ў сабе і прагрэсыўныя элемэнты: гуманнасьць, талерантнасьць, пэўны дэмакратызм, спачуваньне слабому, ахова права меншыняў, ахова жанчынаў у сям'і й грамадстве. Усё гэта выразна запярэчвае цьверджаньні савецкіх гісторыкаў пра тое, што ў Вялікім Княстве Літоўскім панаваў быццам-бы, беспрасьветны ўціск беларускага жыхарства з боку нацыянальна чужых фэўдалаў.

Як і ў папярэдніх дзьвюх кнігах лёнданскага „Журналу беларусаведы", у трэйцяй кнізе багаты раздзел рэцэнзіяў і хронікі. Бальшыня рэцэнзіяў на працы савецкіх аўтараў: на калектыўныя працы „Гісторыя беларускай літаратуры", „Беларуская дакастрычніцкая проза", „Полацкая зямля" Аляксеева, „Хроніка Быхаўца" рэдакцыі Ўлашчыка, „Георгі Скарына" Майхровіча ды шмат іншых. Зьмешчаныя ў часапісе таксама агляды гадавікоў як беларускіх савецкіх часапісаў — „Полымя", „Беларусь", „Маладосьць" гэтак і беларускіх замежных выданьняў — „Божым Шляхам", „Беларус", „Запісы" Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ды іншыя.

Аддзел рэцэнзіяў ды агляду пэрыядычнага друку добра дапаўняе йшчэ й багатая хроніка, унятая ў трох раздзелах падзеяў міжнароднага парадку, што маюць дачыненьне да Беларусі, падзеяў на Беларусі ды за мяжой.

"The Journal of Byelorussian Studies", выдаваны ў Лёндане Англа-Беларускім Таварыствам становіць, як бачым, выданьне багатае зьместам, разнабаковае ды, што галоўна, вельмі актуальнае. Яно запаўняе балючую нястачу навуковае літаратуры пра Беларусь у ангельскай мове.

**Я. З.**

## З КАНАДЫЙСКАЕ ХРОНІКІ

● 18 кастрычніка Аддзел ЗБК Таронта ладзіў у БР-ГЦ сяброўскую вечарыну.

● 26 кастрычніка, пасьля дакладу д-ра Вітаўта Тумаша, адбылося паседжаньне сяброў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канадзе, на якім прысутнічаў і д-р В. Тумаш Старшыня БІНіМ у Нью Ёрку. Паседжаньне праводзіў старшыня, д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч. Былі прынятыя два новыя сябры, абмеркаваны плян працы на будучыню й праведзены перавыбары ўправы, у якую ўвайшлі: старшыня д-р Ян Садоўскі й сакратар-скарбнік маг. А. Грыцук.

● 22 лістапада Парахвія БАПЦ ў Таронта арганізавала ў БР-ГЦ сяброўскую вечарыну.

● Дзень 23 лістапада быў прысьвечаны памяці гэрояў Беларусі. А 10-ай зраніцы ў БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта адбылася Багаслужба й Паніхіда па загінуўшых за волю Беларусі, а пасьля ў БР-ГЦ — адакэмія памяці гэрояў. Кіраваў ёю сп. М. Ганько, старшыня Галоўнае Управы ЗБК стараньнем якое акадэмія была наладжаная. Дакладчыкам быў сп. К. Акула.

● 23 кастрычніка пасьля акадэміі адбылася гадавая зборка Аддзелу ЗБК Таронта. Сход абмеркаваў плян працы на будучыню й перавыбраў управу Аддзелу, у якую ўвайшлі: старшыня сп. Барыс Кірка, сакратар — сп. М. Сільвановіч і скарбнік — сп. М. Кулеш.

# ШТО ЧУВАЦЬ?

**Прадстаўнік БССР у ЗН дамагаецца больш месца для Беларусаў.** На сёлетняй 24-ай Генэральнай Асамблэі АЗН, 25 лістапада, Валеры Ганчарэнка, прадстаўнік БССР, выступаючы ў Пятым камітэце (адміністрацыйным і бюджэтным), жаліўся на нястачу „геаграфічнага балянсу" ў Сакратарыяце ЗН: у ім працуюць на важных пасадах 313 прадстаўнікоў заходніх дзяржаваў, сказаў Ганчарэнка, і адно 68 прадстаўнікоў сацыялістычных краёў. Прадстаўнік БССР, паводля прэсавага камунікату ЗН, заявіў таксама, што „набор асобаў зь Беларусі палепшыўся, але ўсё яшчэ не дасягнуў ніжэйшага ўзроўню пажаданага ліку". Апрача гэтага, заявіў Ганчарэнка, Беларусь ня мае прадстаўніцтва ні ў Сакратарыяце ЗН для справаў прамысловае разбудовы ні ў Эканамічнай Камісіі для справаў Афрыкі. Становішча гэтае, сказаў Ганчарэнка, існуе й дасюль не зважаючы на факт, што ягоны ўрад прысьвяціў асаблівую ўвагу справе падрыхтаваньня працаўнікоў для работы ў Задзіночаных Нацыях.

**Нацыянальнасьці Вільні.** Паводля лятувіскага інфармацыйнага бюлетэню „Эльта", выдазанага ў Нью Ёрку (№7, ліпень 1969 г.), які спасылаецца на афіцыйныя савецкія дадзеныя, у Вільні цяпер 33% Лятувісаў, 31% Расейцаў, каля 20% Палякаў, 7% Жыдоў. Палякі, паводля бюлетэню, штораз больш карыстаюцца расейскай моваю. Пра Беларусаў статыстыка, як бачым, нічога ня кажа, хоць яшчэ застаецца 9% да ўсіх 100%.

У тым-жа нумары „Эльта" кажацца, што газэта „Монтрэаль Стар" за 7 чэрвеня сёлета зьмясьціла артыкул свайго карэспандэнта зь Літ. ССР пра Вільню — артыкул, паводля „Эльта", „неверагоднае наіўнасьці" што да гісторыі гораду й краю.

**Аповесьць польскага пісьменьніка Ю. Мацкевіча пра падзеі на Беларусі.** Польскі Інстытут Літэрацкі ў Парыжы выдаў сёлета вялікую аповесьць ведамага польскага пісьменьніка Юзэфа Мацкевіча пад заг. „Не тшэба глосно мувіць" („Ня трэба гаварыць голасна"). Час дзеяньня аповесьці — Другая сусьветная вайна. Аповесьць дакумэнтальная, падзеі адбываюцца галоўна на Беларусі. У аповесьці шмат фактаў, прозьвішчаў, цікавых дэталяў, што маюць самое беспасярэднае дачыненьне да тагачаснага беларускага грамадзкага жыцьця й палітычнае дзейнасьці.

**Француская марка з назвамі беларускіх гарадоў.** Сёлета француская пошта выпусьціла марку (45 цэнтымаў), прысьвечаную француска-савецкай самалётнай эскадрыле „Нармандыя-Нёман", што змагалася супраць Немцаў у Другой сусьветнай вайне. На марцы, між савецкімі самлётамі, падаючы адзін аднаму рукі, вітаюцца два пілёты, савецкі зьлева й францускі справа. Рысунак маркі абведзены напісам, пачынаючы зь ніжняга левага ражка ўгару: „1942: Масква-Іванава. 1943: Арол-Смаленск. 1944: Віцебск - Бярэзіна - Менск - Вільня-Коўна-Нёман". Ніжні радок мае напіс: „1945: Інстэрбург-Кёнігсбэрг-Данцыг". Рысунак маркі выкананы ў сінім, шэрым ды чырвоным калёрах.

**Японскі часапіс пра беларускую** літаратуру. Японскі часапіс „Савета Бунчаку" №№ 6-7 за сёлетні год) надрукаваў цыкль апавяданьняў беларускіх савецкіх пісьменьнікаў М. Лынькова, І. Шамякіна, Я. Брыля.

**Прывітаньне амэрыканскім касманаўтам зь Беларусі.** Яшчэ 25 ліпеня сёлета газэта „Нью-Ёрк Таймс", падаючы весткі з цэлага сьвету пра рэакцыю на сэнсацыйны палёт на Месяц касьмічнага карабля „Апалён-11", падала між іншых матар'ялаў тэкст тэлеграмы, што прыйшла на адрыс касманаўтаў зь Беларусі, з гораду Гомелю. Вось тэкст тэлеграмы: „Дарагія Месяцавікі, мы вельмі захопленыя Вашым выдатным дасягненьнем. Сям'я Мартузінаў".

**Беларускія вершы паўкраінску.** Ведамы ўкраінскі паэта й шчыры прыяцель беларускае літаратуры Леанід Палтава, што жыве ў Філядэльфіі, ЗША, надрукаваў падборку вершаў сучасных беларускіх паэтаў А. Вярцінскага, Р. Тармолы, Л. Геніюш, О. Іпатавае й А. Малюка ў часапісе Цэнтральнае Ўправы Саюзу Ўкраінскае Моладзі „Авангард" №3 (91). Пераклады, як і арыгіналы, на высокім мастацкім узроўні.

**Нацыянальны склад Палітбюро ЦК КПСС.** Палітычнае бюро ЦК КПСС — кіруючы партыйны орган, які абіраецца пленумам ЦК для кіраўніцтва палітычнай дзейнасьцяй ЦК паміж партыйнымі пленумамі. У складзе сучаснага палітбюро ЦК КПСС Расейцаў — 6 чалавек, Украінцаў — 3, Беларусаў — 1 (Кірыла Мазураў), Латышоў — 1 (усіх 11 чалавек).

Кандыдатаў у сябры Палітбюро ЦК КПСС: Расейцаў — 4, Беларусаў — 1 (Пётр Машэраў), Украінцаў — 1, Казахаў — 1, Грузінаў — 1, Узбэкаў — 1 (усіх 9).

У Сакратарыят ЦК КПСС, які займаецца штодзённай бягучай работай партыі, уваходзяць дзесяць асобаў — усе Расейцы.

**Жанчыны Беларусі ў навуцы.** На пачатку 1969 году ў Савецкай Беларусі было 18.618 навукова-пэдагагічных працаўнікоў. Зь іх больш за 38% — жанчыны.

**Беларускія акадэмікі „старэюць" векам.** Калі ў 1957 г. сярэдні век акадэміка АН БССР складаў 58,6 году, у 1960 г. — 59,4, у 1962 — 61,1, дык да канца студзеня 1969 г. ён дасягнуў 64 гады. Тое-ж было й сярод сяброў-карэспандэнтаў АН БССР. Зьмена сярэдняга веку гэтых навуковых кадраў характарызуецца наступнымі паказьнікамі: у 1957 г. — 54,6 году, у 1960 — 55,3, у 1962 — 57,3, у 1968 — 61,2. Ад канца студзеня 1969 г., у выніку абраньня ў сябры-карэспандэнты АН БССР вялікае групы маладзейшых навукоўцаў, сярэдні век сябры-карэспандэнта АН БССР зьнізіўся да 57,2 году.

Тэндэнцыя да „старэньня" найбольш кваліфікаваных навуковых кадраў выяўляецца ня толькі ў Беларусі. Гэтак, сярэдні век акадэмікаў у Францыі ў 1806 г. складаў 52 гады, а ў 1951 — 72,2.

**Алімпіяда 1976 г. у Маскве?** Савецкія ўрадавыя й прапагандавыя органы пачалі кампанію за тое, каб Алімпійскія гульні 1976 году былі праведзеныя ў Маскве.

---

**УРАЧЫСТАЕ АДЧЫНЕНЬНЕ ГРАМАДЗКАГА ЦЭНТРУ БЕЛАРУСАЎ БРАДФАРДУ І БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДЗКАГА КЛЮБУ**

## „САКАВІК"

**Лёрдам Мэрам гораду Брадфард Алдэрманам Эды Ньюбэй** адбудзецца ў суботу 17 студзеня 1970 г. а 2-ой гадз. папаўдні.

Хаця фактычнае адчыненьне Клюбу адбудзецца ў суботу **20 сьнежня 1969 г.** прадстаўніком Дырэкцыі Бравары „Тэтлей", аднак **афіцыйнае** адчыненьне будзе адсьвяткаванае 17 студзеня, на якое запрашаюцца ўсе сябры Клюбу „Сакавік".

Пасьля афіцыйнага адчыненьня, у залі Клюбу адбудзецца прыняцьце ў гонар Дастойнага Гасьця Лёрда Мэра Алдэрмана Эды Ньюбэй. На ўрачыстасьці будуць прадстаўнікі самаўраду Брадфарду, іншанацыянальных групаў і прэсы.

У часе ўрачыстасьці будзе зарганізаваная выстаўка беларускіх гістарычных і культурных памяткаў, пазычаных зь Беларускага Музэю й Бібліятэкі ў Лёндане.

Адрыс Клюбу: 12 WALMER VILLAS, MANNINGHAM, BRADFORD 8.

**УПРАВА КЛЮБУ**

---

## ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1970 ГОДУ

**СВАЯКОМ, ПРЫЯЦЕЛЯМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЮЦЬ**



*АБРАМЧЫКІ ГАННА И МІКОЛА*
*АЗАРКІ МАРЫЯ, ЯНКА, ЮРКА И ІРЭНА*
*Інж. АЛЕКСЫ ПАВАЛ*
*БАРТУЛЬ ВЕРА, ПРАНЬЦІШ І ДЗЕЦІ*
*БЕЛАРУСКАЯ ДРУКАРНЯ Ў СЫРАКУЗАХ*
*Інж. БРУЦКІ ІВАН*
*Айцец ВІКТАР і Матушка МАРЫЛЯ ВОЙТЭНКІ*
*Д-р ВЯРБІЦКІ АЎГЕН ІЗЬ СЯМ'ЁЙ*
*Д-р ГАЙДЭЛЬ ПЁТР ІЗЬ СЯМ'ЁЙ*
*Інж. ГАРОШКА МІКАЛАЙ ІЗЬ СЯМ'ЁЙ*
*ГУТЫРЧЫКІ ЛІТВІНА, СЯРГЕЙ І ДЗЕЦІ*



*ДАНІЛОВІЧЫ АЛЯКСАНДРА, БРАНІСЛАЎ І АДВАРД*
*ДАНІЛЮКІ МАРЫЯ І БАРЫС ІЗЬ СЯМ'ЁЙ*
*ДАРАШЭВІЧ МІКАЛАЙ ІЗЬ СЯМ'ЁЙ І ТЭДЭНЭ*
*Д-р ЖУК-ГРЫШКЕВІЧЫ РАІСА И ВІНЦЭНТ*
*ЖЫЗЬНЕЎСКІЯ ГАННА, МІКОДА И ДЗЕЦІ*
*ЖЫДАЛОВІЧ КАСТУСЬ*
*ЗАМОРСКІЯ ВЕРА И МІКОЛА ІЗЬ СЯМ'ЁЙ*
*Д-р ЗАПРУДНІКІ ВОЛЬГА, ЯНКА И ДЗЕЦІ*
*КАЖАН ВІТАЛЬ ІЗЬ СЯМ'ЁЙ*
*КАНАРЧУК ВОЛЬГА И ЯНКА*
*Айцец КЕНДЫШ ВАСІЛЬ І Матушка МАРЫЯ*
*Інж. КІСЕЛЬ СЬЦЯПАН*
*КУЛІКОВІЧ-ГРАДЭ НАДЗЕЯ*
*КУНЦЭВІЧ МІКАЛАЙ*
*МАРКЕВІЧ АНТОН ІЗЬ СЯМ'ЁЙ*



*МІЦКЕВІЧ АЛЯКСАНДАР*
*Д-р НАБАГЕЗ УЛАДЗІМЕР ІЗ СЯМ'ЁЙ*
*Інж. НОРЫКІ КІНУСЯ И ЛЕАНІД*
*ПРУСКІ МІКАЛАЙ*
*Д-р РАМАНО АЛЫ И ПРАНЬЦІША СЯМ'Я*
*Д-р РАМУКІ ВЕРА, ВІТАЎТ І ДЗЕЦІ*
*РОДЗЬКАЎ-РУСАКОЎ СЯМ'Я*
*СТАГАНОВІЧАЎ СЯМ'Я*
*Інж. СТАНКЕВІЧ ВЯЧАСЛАЎ ІЗЬ СЯМ'ЁЙ*



*Д-р СТАНКЕВІЧЫ ЗІНА, СТАСЬ І РАЯ*
*СТОМА НІНА И ВАСІЛЬ*
*СУБОТА КАЦЯРЫНА І АДОЛЬ*
*СЫЛІЎКА УЛАДЗІМЕР*
*ТУЛЕЙКІ ВОЛЬГА И МІХАСЬ*
*Інж. ХАНЯЎКІ МАРЫЯ И ЧАСЛАЎ*
*ШУКЕЛАЙЦЬ АНТОН*
*ЧАРНЭЦКІЯ АЛЯКСАНДРА И ЯНКА*
*ЯНОВІЧЫ ВАЛЕНТЫНА И ЯНКА*
*ЯСЬКЕВІЧЫ ВОЛЬГА, ПАВАЛ І ПЁТРА*

**Усе вышэй успомненыя Спадарыні й Спадары, замест індывідуальных прывітаньняў, злажылі па 10 даляраў на Выдавецкі Фонд „Беларуса".**

---

*ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ*
*Беларусам Брадфарду і ўсяе Ангельшчыны шчыра жадае*
*БЕЛАРУСКІ ГРАМАДЗКІ КЛЮБ У БРАДФАРДЗЕ „САКАВІК"*

---

*НАШИМ КЛІЄНТАМ БІЛОРУСАМ*
*Бажаємо Веселих Свят*
*І*
*ЩАСЛИВОГО НОВОГО РОКУ*
*HALELUK'S BAR & GRILL*
Liquor store, Restaurant, Catering
89 Jersey Avenue, New Brunswick, N. J.
Phone: 247-9566

---

*ШЧЫРЫЯ КАЛЯДНЫЯ ПАЖАДАНЬНІ*
*здароўя й даўгога жыцьця*
*ПАЦЫЕНТАМ І ЎСІМ ЗНАЁМЫМ*
*перасылае*
*В. В. ВАСІЛЕЎСКІ*
40 Quincy Avenue, Passaic, N. J. 778-1006

---

*НАШЫМ КЛІЕНТАМ БЕЛАРУСАМ*
*жадаем*
*ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ*
*EUROPEAN HOME MADE PROVISIONS*
301 Turnpike Road
East Brunswick, N. J.

---

**ПРОЗЬВІШЧЫ НА — СКІ, —ЦКІ — БЕЛАРУСКІЯ**

Прашу выбачэньня ў Рэдакцыі й Чытачоў, што гэтым моўным зацемам займу крышку месца. Зацем гэты, адылі, вельмі патрэбны. Не мая віна, што ён будзе надрукаваны, але сп. Юркі Віцьбіча, каторы ў сваіх чысьленых лістох рассылае верш, у якім кажацца, што прозьвішча „Пятроўскі" аднаго Вялікаліцьвіна (Беларуса) — ня беларускае.

Ведама, калі прозьвішча „Пятроўскі" ня беларускае, дык і ўсе іншыя прозьвішчы на —цкі й на — скі, каторыя із — скі (Ракіцкі з Ракіт-скі) таксама ня беларускія. А як гэта датычыцца да Беларуса, дык пытаньне пераходзе за межы мовы й стаецца заразом нацыянальным, ды не такім малым, як можа здавацца.

Як беларускі мовавед, я маю за свой абавязак запярэчыць такому абмыльнаму цьверджаньню. Прозьвішчы Беларусаў на —скі, —цкі — беларускія. Яны паўсталі ад геаграфічных назоваў. Гэтак, прыкладам, ад „Пятрова" або „Пятровічы" (сяло або засьценак) ёсьць прыметнік „пятроўскі", ад „Крывічы" — „крывіцкі", ад „Заслаўе" — „заслаўскі". Як паўсталыя ад геаграфічных назоваў, прозьвішчы на —цкі, —скі ёсьць уза ўсіх славянскіх мовах. Тое, што ў Польшчы такія прозьвішчы вельмі пашырыўшыся ды ня толькі ад геаграфічных назоваў (прыкладам, Ковальскі) і ўважаюць іх там за характарыстычныя польскія й шляхоцкія, ані ня перашкаджае таму, што ў кажнай іншай мове славянскай яны — свае.

**Я. Станкевіч**

---

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

За апошні месяц (ад справаздачы ў папярэднім нумары газэты) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":

| | |
|---|---|
| 1. Д-р Ул. Набагез | 110.00 |
| 2. Р. В. | 34.00 |
| 3. Інж. Л. Норык | 30.00 |
| 4. Т. В. | 29.00 |
| 5. Астача з памінальнага абеду па сьв. пам. Д-ру А. Орсу ў Кліўленьдзе | 20.00 |
| 6. Інж. М. Гарошка | 20.00 |
| 7. М. Тулейка | 20.00 |
| 8. Д-р Я. Запруднік | 20.00 |
| 9. Д-р П. Гайдэль | 20.00 |
| 10. Беларуская Друкарня ў Сыракузах | 16.50 |
| 11. М. Кунцэвіч | 15.00 |
| 12. А. Міцкевіч | 15.00 |
| 13. Б. Данілюк | 15.00 |
| 14. А. Субота | 15.00 |
| 15. Я. Азарка | 15.00 |
| 16. А. Шукелайць | 15.00 |
| 17. Д-р Ала і Пранцьш Рамано | 10.00 |
| 18. Інж. М. Рагуля | 10.00 |
| 19. Ю. і П. Андрусышын | 10.00 |
| 20. З. Станкевіч | 10.00 |
| 21. Каханоўская Я. | 10.00 |
| 22. У. Р. | 10.00 |
| 23. К. Жыдаловіч | 10.00 |
| 24. П. Драздоўскі | 10.00 |
| 25. Інж. П Алексы | 10.00 |
| 26. М. Заморскі | 10.00 |
| 27. Д-р С. Станкевіч | 10.00 |
| 28. а. В. Кендыш | 10.00 |
| 29. Інж. В. Станкевіч | 10.00 |
| 30. Д-р А. Вярбіцкі | 10.00 |
| 31. Я. Чарнэцкі | 10.00 |
| 32. Інж. Ч. Ханяўка | 10.00 |
| 33. Я. Канарчук | 10.00 |
| 34. В. Стома | 10.00 |
| 35. Ул. Сыліўка | 10.00 |
| 36. М. Вярбіцкі | 6.00 |
| 37. Радыё „Свабода" | 6.00 |
| 38. Я. Калюцік | 5.00 |
| 39. А. Шабуня | 5.00 |
| 40. Л. Стагановіч | 5.00 |
| 41. В. Міцкевіч | 5.00 |
| 42. Р. Станкевіч | 5.00 |
| 43. П. Мірановіч | 5.00 |
| 44. Б. Даніловіч | 5.00 |
| 45. С. Гутырчык (за клішэ) | 5.00 |
| 46. М. Данілюк | 3.00 |
| 47. Д-р Я. Станкевіч | 3.00 |
| 48. Ул. Курыла | 2.00 |
| 49. Х. У. | 2.00 |
| 50. Х. У. | 2.00 |
| 51. Н. О. | 1.00 |

**БЕЛАРУСЫ З КАНАДЫ**

| | |
|---|---|
| 52. Д-р Р. і В. Жук-Грышкевічы | 70.00 |
| 53. Я. Янцэвіч | 10.00 |
| **Усяга разам:** | **$ 644.50** |

Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!